Гомельская дзіцячая газета

# Крынічка

№9 (29) Кастрычнік 2000 г.

## С прафесійным святам вас, паважаныя настаўнікі!




Апавяданне



## Крыўда

Вярнуўся Косцік са школы сярдзіты.

- Ты чаму такі? - спытала маці.

- Мне двойку паставілі. За ката.

- За якога ката?

- Вось, - разгарнуў Косцік сшытак. - Няўжо я дрэнна яго намаляваў?

Кот быў прыгожы. Хвост - трубой. Вусы белыя. Шэрстка як у тыгра, паласатая.

- Прыгожы кот, - адказала маці.

- А настаўніцы не спадабаўся. Двойку паставіла.

- Ты, магчыма, балаваўся на ўроку малявання?

- Не, - адказаў Косцік. - У нас сёння не было малявання. Я намаляваў яго на ўроку матэматыкі.

**Чытайце ў нумары:**

Адзенне беларуса

Вершы

Дасье з экалогіяй

Крыжаванкі

Смяшынкі



**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

## ЗЯМЛЯ З БЛАКІТНЫМІ ВАЧАМІ

Зямля з блакітнымі вачамі -
Раздолле рэчак і лугоў!
Тут называюць Васількамі
На Беларусі хлапчукоў.

Звіняць крыніцы, як цымбалы,
Сцяжынкі свецяць у лясах.
Палі, узгоркі, перавалы -
Прасторны шлях, далёкі шлях!

Краіна славы партызанскай,
Краіна Міру і даброт!
Ты - наша гордасць,
Наша казка,
Як сонца добры твой народ.

Твае сыны,
Твае унукі,
Мы любім гул тваіх бароў.
І рэкі цягнуцца, як рукі,
Да цёплых, верных рук сяброў.

**Л. ПРАНЧАК**

## БЕЛАРУСЬ - МАЯ РАДЗІМА

Беларусь - мая Радзіма
Цік-так, ходзікі,
Мне чатыры годзікі.
Чуб ільняны - светла-русы,
Тата з мамай - беларусы.

Я - дзяўчынка-беларуска
З васільковымі вачыма,
Хоць малая,
Але знаю:
Беларусь -
Мая Радзіма.

# Беларускае народнае адзенне

У святочным і абрадавым адзенні адлюстравалася само жыццё беларуса, яго светапогляд, адносіны да людзей.

Ільняное белае адзенне з саматканкі спадарожнічала беларускаму селяніну ад нараджэння да смерці. У зіхатліва-белы мятлік апраналі немаўлятка, у далікатна вышытай кужэльнай кашулі апускалі нябожчыка ў магілу.

Сама назва - Беларусь, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, этнографы, паходзіць ад таго, што ўлюбёным колерам адзення беларусаў быў белы.

Даўнімі традыцыямі было вызначана, якое адзенне насіць у будні ці свята, надзяваць на вяселле ці радзіны, з выпадку радасці ці жалобы.

У пост, напрыклад, хадзілі ў «пасцяным» касцюме, у якім адсутнічаў чырвоны колер. У самае прыгожае ўбіраліся і да працоўнай урачыстасці: першы выган жывёлы «на юраўскую расу», свята першай баразны, першага снапа на ніве, першага пракосу на сенажаці.

Асабліва строгі і вытанчаны быў святочны касцюм маладзіц да нараджэння першага дзіцяці. Нібы гатычныя мадонны, павітыя ў бялюткія наміткі, апранутыя ва ўзорыста-маляўнічыя андаракі, велічна і грацыёзна хадзілі яны па роднай зямлі і, як усе жанчыны свету, адчувалі сябе ва ўрачыстых уборах высакароднымі і прыгожымі, шчаслівымі і радаснымі.



Менавіта жаночы касцюм з найбольшай яркасцю і паўнатой увасабляе мастацкае мысленне народа, багацце яго фантазіі, развітасць густу і пачуццё меры. Ён - найбольш яскравая і пераканальная частка рукатворнай спадчыны беларускага народа.

# Як апранаюцца зараз



Мы носім ніжняе (сподняе) адзенне і верхняе. Верхняе адзенне бывае святочнае і будзённае. Святочнае адзенне мы апранаем у святы, а будзённае ў будні.

Які сёння дзень - святочны ці будзённы? Я вам задам простае пытанне: навошта мы апранаемся? Так. Каб прыкрываць сваё цела. Каб нам было і прыгажэй, і зручней, і здаравей, і цяплей.

Давайце прыгадаем, як называецца наша сподняе адзенне - бялізна. І дзяўчынкі, і хлопчыкі носяць кашулькі. І дзяўчынкі, і хлопчыкі носяць майкі, футболкі. І дзяўчынкі, і хлопчыкі носяць трусікі. І дзяўчынкі, і хлопчыкі носяць калготкі. На ноч адзяюць начныя кашулі ці піжамы.

Давайце прыгадаем, якое верхняе адзенне мы носім. Дзяўчынкі носяць сукенкі (сукеначкі), спаднічкі з блузкамі, світэрамі ці маечкамі. Акрамя спаднічкі, надзяюць доўгія штаны (порткі), джынсы ці шорты.

Каб аздобіць адзенне, прывязваюць да блузкі ці сукенкі бант, надзяюць белы каўнерык, а ў косы ўплятаюць стужкі і завязваюць у банцікі.



Хлопчыкі носяць доўгія ці кароткія штаны (порткі), кашулю (сарочку) з камізэлькай ці без яе, майкі, світэры. Большыя хлопчыкі завязваюць гальштукі.

У халоднае надвор'е і дзяўчынкі, і хлопчыкі апранаюць паліто, плашч, куртку. У вельмі халоднае надвор'е апранаюцца ў футра.

На галаву і дзяўчынкі, і хлопчыкі надзяваюць шапку ці берэт.

Дзяўчынкі часам носяць капялюшы ці завязваюць хусткі.



# Прывітанне, мае маленькія сябры! Гэта зноў я – Джэлі Джэм.



На двары восень, і мы з вамі павінны паклапаціцца, каб зімой нам было цёпла, але пры гэтым менш растрачваць электраэнэргіі. А значыць, і меньш забруджваць навакольнае асяроддзе.

Калі ў тваёй кватэры табе стала халодна, не спяшайся ўключаць электранагравальныя прылады. Апраніся цяплей, і ты ўбачыш, што можна абыйсціся без электранагравальных прылад.

Я вельмі люблю сонца. Сонечныя праменні саграваюць людзей, жывёл і нашы дамы, у якіх мы жывем.

Паглядзі на малюнак, і ты ўбачыш, якую цёплую хатку я зрабіў для свайго сябра - пёсіка. Гэта хатка называецца сонечная. Хатка павернута да сонца і ўбудавана ў горку. Зямля робіць хатку цёплай зімой і прахладнай летам.

Крыша заканчваецца карнізам. Зімой сонечныя промні пападаюць у хатку, таму што ў гэту пару года сонейка на небе вельмі нізка, а летам падымаецца высока, і карніз засцерагае хатку ад сонца.

Яшчэ ў маёй хатцы крыша цёмнага колеру, таму што цёмны колер убірае цяпло, а белы – адпіхвае.

Правядзі наступны дослед. Вазьмі два аркушы паперы, адзін цёмнага колеру, а другі белага, змачы іх вадой і пакладзі з сонечнага боку. Праз 20 хвілін паглядзі, якая папера цяплей: цёмная ці светлая.

Ты адчуеш, што цёмная папера больш цёплая, чым светлая. Вось чаму ў маёй хатцы цёмная крыша.

Над дзвярамі хаткі – скручаная заслонка, якую можна адкінуць, калі халодна.

Вось такі атрымаўся цёплы і эканамічны домік для сябра.

Калі ў цябе ёсць такі сябар, як у мяне, ты можаш зрабіць яму такую ж хатку. І я ўпэўнены, што ў такой хатцы твайму сябру будзе вельмі цёпла зімой.

На сёння ўсё. Пакуль. Да наступнага нумара.




## Крыжаванка

Ад Вікторыі

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | |
| 2 | | | | | 4 | |
| 3 | | | 5 | | | |
| 4 | 6 | | | | | |
| 5 | | | 2 | | | |
| 6 | | | | | 7 | |
| 7 | | | | | 1 | |
| 8 | | 3 | | | | |

*1. Знак 1999 года.*
*2. Кантынент.*
*3. Інструмент для апрацоўкі фанеры.*
*4. Ад літары А да Я.*
*5. Алімпійскае спаборніцтва.*
*6. Усходняя расліна.*
*7. Стыхійнае бедства.*
*8. Сталіца еўрапейскай дзяржавы.*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | Ы | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|

# Восень – мая любімая пара

Я не ведаю, чаму я люблю восень. Напэўна, таму, што навокал адбываецца хуткая змена фарбаў.

Я хачу падзяліцца з вамі сваімі назіраннямі і тым самым паказаць, што восень не горш за лета, вясну ці зіму.

Верасень, кастрычнік, лістапад – восеньскія месяцы. Іх не зблытаеш адзін з другім. У кожнага свой характар і колер.

Верасень можна назваць – златацвет, гэта пара залатой восені. На палях, лугах, дрэвах шмат жоўтых фарбаў. А чырвоныя ягады рабіны і бузіны ўплятаюцца ў жаўцізну верасня. Але дзе-нідзе ў полі яшчэ можна ўбачыць скромную запаздалую кветачку. Напужаўшыся холаду, хаваюцца насякомыя, адлятаюць птушкі...

Наступны месяц – кастрычнік. Яго я называю мурзацік. Часта ідуць халодныя дажджы ўперамешку са снегам. Пад нагамі гразь. Сонца і цяпла мала. Раніцай лужы пакрываюцца льдом. Дзень карацейшы, а ноч больш працяглая...

А вось і лістапад – вароты зімы. Лістапад – гэта паўзімнік. Зіма становіцца на ногі – налятаюць маразы. Лес стаіць празрысты, голы. Толькі прыгажуні елкі яшчэ прыгажэйшыя. Іх цёмная зелень упрыгожвае лес.

Вы скажаце: і што ж тут добрага? Халодна, гразна, мокра, неўтульна. Не, гэта не так. Я мяркую, што ўсё навокал: і прырода, і людзі – стамілася ад яркіх фарбаў, сонца, летняга дажджу, мітусні, а восень прынесла ўсяму наваколлю спакой, дае час падумаць, памарыць, гледзячы на шамаценне лісця, вецер і першы снег.

Восень падрыхтоўвае нас к нечаму чыстаму, празрыстаму. Яна рыхтуе нас да зімы. Аднойчы ўначы выпадзе снег і ўжо не растане да самай вясны.

Паназірай і ты, пераканаешся ў гэтым сам.

*Назіраў Дзіма.*



## Прыказкі пра верасень

**Халодны верасень, але сыты.**
**Як настаў верасень, так туман кожны дзень.**
**У верасні ліст на дрэве не трымаецца.**

## Народныя прыкметы

**Гром у верасні – на цёплую восень.**
**Летам бочка вады, лыжка гразі; восенню лыжка вады, а бочка гразі.**

## Загадкі

**Ляцеў пан, на ваду паў, вады не ўзмуціў.**
**З неба крупы падаюць.**
**Ішоў даўгавяз, у зямлю ўвяз.**
**Пушыстая вата, плыве некуда.**
**Два браты ў ваду глядзяцца,**
**а разам не сходзяцца.**

*Малюнкі вам дапамогуць адказаць на загадкі!*










**Перад законам усе дзеці роўныя, чым бы яны не адрозніваліся адзін ад другога.**

**Усе правы распаўсюджваюцца на ўсіх дзяцей.**

**Дзяржава абавязана абараняць дзіця ад усіх форм дыскрымінацыі і прымаць неабходныя меры па абароне іх правоў.**



Добры дзень, сябры! Прашу вашай дапамогі. Я – гэта маленькі, шэры, з доўгай шыяй качаня. А можа, не качаня?

Мае маці і бацька – качкі. Яны добрыя і клапатлівыя.

Але з-за мяне нашу сям`ю не прымаюць на птушыным двары. Мяне клюнуў певень, шчыпнуў гусак, пакрыўдзіў індык.

Яны смяюцца з мяне, таму што я не падобны на сваіх бацькоў і астатніх братоў качанят.

Мяне адусюль гоняць, кажуць, што я гадкі качаня.

Што мне рабіць, куды ісці? Парайце мне, сябры.

# Індык-заолаг, сабака-нянька ды іншыя

## *Я і мая сястра Юля вырашылі расказаць вам пра нашых хатніх жывёл.*

Увосень бацька прынёс нам маленькую труску. Мы вельмі ўзрадаваліся, пачалі шукаць для яе імя.

А паколькі любім некаторыя рэкламныя сюжэты, то вырашылі назваць труску Досяй. Звярок такі прыгожы, забаўны! Напрыклад, хоча есці - стане на заднія лапкі ды глядзіць на цябе, просіць.

Ёсць у нас і вельмі смешныя індыкі Гулечка і Гога. Гога - сынок Гулі. Калі ён быў маленькі, злавіў дзюбаю матыля-крапіўніка і бег паказаць маці сваю здабычу. А яна нібыта прыклеілася да ягонага носа. Гога бег і глядзеў на матыля, вочы ягоныя амаль сышліся разам.

Мы часта ўзгадваем гэты выпадак і смяёмся.

Маці аднойчы раззлавалася на яго і пачала ганяцца за ім па ўсім двары. Смешныя гонкі доўжыліся, аж пакуль Гога не дадумаўся пераляцець праз плот...

І яшчэ адзін цікавы выпадак. Улетку наша курыца вывела на хляве куранятак. Неяк адзін з іх уночы выпаў з гнязда і ўпаў каля сабачай будкі. Аўчарка Зіна пашкадавала яго... Зранку бацька знайшоў небараку: той быў у будцы, Зіна не зрабіла яму нічога злога, толькі аблізала. Усе мы вельмі здзіўляліся.

Тое, што я напісала, - невялікая частка з назіранняў над нашымі гадаванцамі.

А мая сястра Юля намалявала герояў расказу, якія жывуць разам вельмі дружна, не парушаючы нічыіх правоў.

***Каця КУКЕЛЬ.***



Адшукайце на гэтым малюнку пяць памылак.





# Смяшынкі



●

Настаўніца падышла да аднаго вучня, з дакорам паглядзела на яго і сказала:

- Зноў маці рашыла за цябе задачу?

- А што мне рабіць, калі тата ніколі не мае часу.

●

Бабуля спявае калыханку для ўнука. Гадзіну пяе, другую, трэцюю... Стамілася, вырашыла адпачыць. Тут унучка адкрывае вочы і пытаецца:

- Бабуля, можа я цяпер пасплю?

●

- Алесік, дзетка, чаго ты плачаш?

- Ударыўся аб дзверы і набіў шышку на лбе.

- А ну, пакажы. Калі гэта здарылася?

- Учора вечарам.

- А чаго ж ты равеш сёння?

-Дык учора нікога дома не было!..

●

-Мама, а праўда, што людзі растуць, як бульба, пад зямлёй?

- З чаго ты ўзяў, сынок?

-А дзядзька ўчора пытаў у нашага таты:

«Дзе гэта ты сваю бабу адкапаў?»

●

- Тата, памятаеш, ты некалі гадоў таму расказваў, што цябе выгналі са школы...

- А чаму ты пра гэта ўспомніў?

- Ды так... Проста я зразумеў, чаму кажуць, што гісторыя паўтараецца.

## Крыжаванка «СМОЎЖ»

*Упішы ў клеткі хаткі смоўжа назвы ўсіх, хто намалёван на карціне і размалюй яе рознакаляровымі алоўкамі. Атрымаецца карціна.*




Дзіцячая газета КРЫНІЧКА

Над нумарам працавалі:
*Валянціна БУДНІКАВА,*
*Таццяна ШУЛЬГА (адказная за выпуск)*

Наш адрас: *246036, г.Гомель, вул. Б.Хмяльніцкага, 93 - 6.*

Наклад – *250 экз.*

*Шчыра дзякуем аб'яднанню «Грамадзянскія ініцыятывы» за дапамогу ў выпуску нумара!*